ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 47 (1541) ГОД XXX БЕЛАСТОК 24 ЛІСТАПАДА 1985 г. ЦАНА 10 зл.



Спяваюць „Васілёчкі". Да артыкула „Просім часцей" на стар. 6.

## ПАЧАТАК НОВАГА СЕЗОНА

Адкрыццё новага культурнага года з'яўляецца добрай нагодай дзеля таго, каб пагаварыць па шчырасці са сваім культурна-асветным актывам і прадстаўнікамі ўлад.

У бягучым годзе адкрыццё чарговага культурна-асветнага сезона ў Беларускім таварыстве, якое адбылося 26 кастрычніка ў Гайнаўскім Доме культуры „Гурнік", адрознівалася значна ад папярэдніх такіх сустрэч.

У самым пачатку пасяджэння Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству за культурна-асветную дзейнасць быў уручаны Медаль саракагоддзя вызвалення Беластока.

Сёлета адкрыццё новага культурна-асветнага года ў БГКТ было арганізавана супольна з Кураторыяй асветы і выхавання ў Беластоку і на яго былі запрошаны настаўнікі беларускай мовы, дырэктары школ, у якіх навучаецца гэты прадмет, гмінныя інспектары асветы і выхавання.

Намеснік куратара Збігнеў Камяноўскі, які старшынстваваў на гэтым пасяджэнні, ужо ў самым пачатку сказаў, што мэтай сустрэчы з'яўляецца абмен думак адносна ўдасканальвання навучання беларускай мовы, культывавання роднай мовы і нацыянальнай культуры. Настаўнік беларускай мовы павінен быць „паслом" беларускасці.

З дакладам аб стане беларускага школьніцтва выступіў старшы візітатар Кураторыі Стэфан Крэнтоўскі.

Старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі гаварыў аб добрых баках у навучанні роднай мовы, але найбольш аб вялікіх недахопах, якія выступаюць у гэтай дзялянцы і з'яўляюцца неспрыяльнымі для ўсёй беларускай культурна-асветнай дзейнасці.

— Адносіны да беларускіх спраў маглі б быць яшчэ лепшымі, як з боку цэнтральных, так і ваяводскіх улад. Беларуская мова з незразумелых прычын не зраўнана з іншымі прадметамі ў школе. Яна нераўнапраўная, бо неабавязковая, так як іншыя прадметы, нягледзячы на тое, што ў многіх мясцовасцях Беласточчыны — беларусы з'яўляюцца большасцю. Прадмет гэты вельмі часта з'яўляецца апошнім урокам, не заўсёды ў жыцці школ выступае двухмоўнасць.

Настаўнікаў беларускай мовы назваў Аляксандр Баршчэўскі апосталамі і мучанікамі, таму што многія з іх не маюць маральнай падтрымкі дырэктараў школ і інспектараў, ды і таму таксама, што безупынна не хапае навучальных дапаможнікаў, у тым ліку і некаторых падручнікаў.

Славутыя словы I сакратара ПАРП Войцеха Ярузельскага аб нацыянальных меншасцях у Польшчы нідзе не папулярызуюцца, не знойдзеш напісаных і вывешаных гэтых слоў ані ў камітэтах партыі, ані ва ўпраўленнях рад нарадовых, ані ў Кураторыі і інспектаратах асветы і выхавання, ані ў школах. Гэтыя словы толькі ў ГП Беларускага таварыства можна ўбачыць за шклом. У школьніцтве становішча нязначна адбягае ад сітуацыі ў мінулым годзе.

І яшчэ адна справа. Сустракаемся мы з такімі пытаннямі, як цалкавітая абыякавасць, а на-

(Працяг на стар. 5)

## У ЛІСТАПАД



Фота Я. Целушэцкага.

Бацька прынёс
Вёдры, поўныя восені,
І кажа: — Слата, туман.

Сырадой раніцы
Маці перацадзіла
І кажа: — Золь. Імжа.

А мне здаецца,
Што гэта Верасень
Са сваімі сябрамі
Неганісабакузхаты,
Дажджахлюпам і
Гразяшлёпам
Зацяплілі нашу лазню
І хвошчуцца венікамі
прысад,
Толькі пара клубіцца,
Толькі пырскі лятуць
І лістота ўсцілае зямлю.

**Максім Танк**




### ШЭПТЫ ПА КУТКАХ

Чытаючы, часта займальныя, палемікі Анатоля Маўчуна, Міхася Куптэля, Алеся Барскага, Васіля Петручука, Аўроры, гавару сам сабе: яны маюць рацыю, але чамусьці такую другарадную... Прадчувалася мною, што дыскутанты пабойваюцца крануць найважнае, сутнасць сутнасці, бо тады трэба было б адказаць самому сабе перш за ўсё! Алесь Барскі, хоць піша нядбайліва, аднак найменей у павучальным тоне, азіраючы і сябе крытычным вокам (у беспрэтэнцыёзнасці перавышае яго, мабыць, адзін Петручук).

І так, шаноўныя дыскутанты, калі не цяпер, дык потым нехта выкажа ўголас элементарнае пытанне: ці ў таго, хто пагадаваў дзяцей і ўнукаў небеларусамі, ёсць маральнае права папракаць іншых у недастатковай беларускай патрыятычнасці? Я асабіста лічу, што такі павінен маўчаць! Патрыятызм гэта перш за ўсё ўчынкі, а не словы, не нейкая дэкарацыя, на якую прыемна глядзець. Жыццё вучыць, што куліса гэтага пераважна панурыя. Асабліва Барскі прыводзіць шмат прыкладаў у пацвярджэнне гэтай заўвагі — разыходжанне паміж гавораным і робленым — але разам з тым не абагульняе іх у дакладную фармулёўку. Чаму?

Ні ў кога таксама не прыкмеціў я нечага накшталт пытання: быць беларусам, што гэта значыць? Праўда, ёсць даволі густыя сляды адказу на такое праўдападобнае пытанне, але не глыбейшыя за аргументы мовы, песні, часамі звычаю або падручнікавай версіі літаратуры (сёй-той Янкам Купалам падапрэцца). Як жа мала і ўбога, а ці не?! Аж дзіўна падумаць: на працягу столькіх дзесяцігоддзяў і пакаленняў не дабіліся мы тут у сябе збудавання папулярнай свядомасці вялікасці ўласнага беларускага мінулага. Каб імпанавала яно нам! Пачаткі Беларусі гэта не Студзеньскае паўстанне і ягоны дыктатар Кастусь Каліноўскі, і не да паншчыннага халопа яна зводзіцца. Нацыя, каб выжыць, павінна менавіта імпанаваць, што, нарэшце, неяк цямім ужо ды мітусімся вакол таго: каб быў гонар быць беларусам. Інакш будзе ўсё так, як нядаўна пісаў у „Ніве" Валянцін Сельвасюк: не толькі па мястэчках, але і па вёсках ужо рэдка каму хочацца выхоўваць дзяцей з роднай мовай, тлумачыць ім, хто яны ў сапраўднасці.

У наш час нікуды ты не падзенешся перад нацыянальным

(Працяг на стар. 4)

## НА мяжы

### АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (XIII)

У працэсе развіцця нацыянальнай свядомасці ўсіх народаў вельмі важную ролю адыгрывалі храмы, школы і дзяржаўныя ўстановы. Наша становішча ў гэтым аспекце склалася вельмі нядобра. Як вядома, беларусы былі разбіты на дзве рэлігіі — праваслаўную і каталіцкую. За гэтыя рэлігіі і ўчапіліся ў гістарычным мінулым рускія і польскія экспансіяністы. З цягам часу ўдалося ім вытварыць страшэннае для беларусаў пераканание аб рускай царкве і польскім касцёле. На жаль, такія перакананні не былі фікцыйнымі. Сапраўды праваслаўная царква стала рускай, а каталіцкі касцёл — польскім, і што ідзе за гэтым, прапанаваныя імі веравызнанні таксама сталі „рускім" і „польскім". Дайшло да поўнага абсурду. Рускі з глыбіні Расіі, або паляк з глыбіні Польшчы ніколі не скажа, што яго рэлігія руская або польская. Назавуць яны свае веравызнанні праваслаўным або каталіцкім. Затое, беларусы, між іншым, і нашы з Беласточчыны, часта называюць сваю рэлігію рускай або польскай. Адкуль гэта ўзялося? Пайшло яно ад русіфікатараў і паланізатараў. На жаль, беларускі рух быў настолькі слабы, што не здолеў супрацьставіцца гэтай недарэчлівай тэндэнцыі. Ужо на старонках „Нашай нівы" паяўляліся артыкулы, у якіх давалася тлумачэнне гэтым справам. Іх аўтары растлумачвалі беларусам, што няма рускай і польскай рэлігіі. Былі таксама зроблены спробы ўвядзення беларускай мовы ў царквы. Цікава, што такія спробы рабіліся перш за ўсё ксяндзамі. Залатымі літарамі ўпісаўся ў гісторыю беларускага нацыянальнага развіцця ксёндз Казімір Сьтэповіч (Сваяк), які паслядоўна ўводзіў у касцёл беларускую мову. Ніхто да канца не высветліў усіх пакут і мучэнняў, якія сустрэлі яго з боку касцельнай іерархіі. Бо і хто ж мог адобрыць „злачынствы" чалавека, які на беларускай зямлі да беларусаў-прыхаджан і з беларускай зямлі да Бога асмеліўся звяртацца па-беларуску?! І сёння ў БССР жыве ксёндз Чарняўскі ў мясцовасці Вішнева, які карыстаецца ў касцёле беларускай мовай. У парыжскай „Культуры" ўжо некалькі разоў паяўляліся з'едлівыя артыкулы аб Чарняўскім. Праяўляецца ў іх нянавісць экспансіяністаў, якія зноў ахвотна павандравалі б у глыбіню Беларусі, каб мячом і крыжам устанаўляць там парадкі, якія не маюць нічога супольнага з матэрыяльнымі і духоўнымі інтарэсамі беларускага народу. Істотны ўклад у працэс увядзення беларускай мовы ў цэркві ўнеслі таксама беларускія уніяты.

Не хачу тут гаварыць аб нацыянальным характары праваслаўнай царквы, бо ўсе чытачы не горш, а можа і лепш, чым я, ведаюць, як гэта справа выглядае ў штодзённай і штонядзельнай практыцы.

І так, са смуткам можам канстатаваць, што ёсць так як ёсць. Аграмадная патэнцыя, якой была і ёсць рэлігія, не ўключалася ў працэс будавання беларускай нацыянальнай свядомасці. Тады, калі ў Расіі або Польшчы гучалі і гучаць званы рускасці і польскасці, у беларусаў такія званы або не званілі ўвогуле, або выдавалі мізэрны тон. Я думаю, што няма такога тыдня і дня, каб рускі праваслаўны духоўны або польскі каталіцкі ксёндз у такой ці іншай форме не падкрэсліваў вяжнасці і значэння

(Працяг на стар. 5)

## Весткі з Беларусі

### МАЗЫРСКІ БЯЛОК

Датэрмінова асвоены праектныя магутнасці другога пускавога комплексу Мазырскага завода кармавых дражджэй. Яго датчыкі зафіксавалі нарматыўную выпрацоўку, якая разлічана на 90 тысяч тон высокапажыўных кармоў у год.

Тона гэтай прадукцыі, насычанай бялком, вітамінамі, амінакіслотамі, эканоміць каля шасці тон збожжа, дае дадатковую прыбаўку — 800 кілаграмаў свініны і паўтары тоны мяса птушкі ў жывой вазе. На прадпрыемстве змантіравана самае сучаснае абсталяванне. Сістэма кіравання ўсімі тэхналагічнымі працэсамі поўнасцю аўтаматызавана. Гэта дазваляе практычна без адходаў перапрацоўваць парафіны ў каштоўныя кармавыя дабаўкі.

Будаўнікі цяпер нарошчваюць тэмпы работ. Сёлета будзе здадзены ў эксплуатацыю трэці пускавы комплекс на 60 тысяч тон пажыўнай прадукцыі.

### СЯБРУЮЦЬ І СПАБОРНІЧАЮЦЬ

Эканамічную эфектыўнасць амаль сто тысяч рублёў дало Магілёўскай доследна-эксперыментальнай абутковай фабрыцы плённае супрацоўніцтва з габраўскім абутковым заводам „Серп і молат" у Балгарыі. На такой узаемавыгаднай аснове сябруюць і спаборнічаюць паміж сабою калектывы многіх прадпрыемстваў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, будаўнічых і транспартных арганізацый, навучальных устаноў Габраўскай акругі і Магілёўскай вобласці. Дваццацігадовы вопыт супрацоўніцтва абагульнены ў кнізе „Ад сэрца да сэрца", якая выйшла ў Мінску ў выдавецтве „Беларусь".

### УНІВЕРСАЛЫ ДЛЯ ПАЛЁЎ

Універсальнай машынай для ўнясення ў глебу вадкіх арганічных угнаенняў папоўніўся парк сельскагаспадарчай тэхнікі. Навінку пачалі выпускаць у аб'яднанні „Бабруйскфермаш".

Упершыню ў айчыннай практыцы машынабудаўнікі дагрунілі раскідвальнік агрэгатам, дзякуючы якому машына не раскідвае ўгнаенні па паверхні поля, як гэта было раней, а адразу заворвае ў глебу на глыбіні 12-18 сантыметраў. Усім тэхналагічным працэсам механізатар кіруе з кабіны трактара з дапамогай гідраўлікі.

Раскідвальнік бярэ на борт дзесяць тон арганікі, на загрузку якой патрабуецца толькі 6-8 мінут. Працуе ён у пары з трактарам і здольны за гадзіну ўнесці звыш 25 тон угнаенняў.

### СПОРТ

■ Здаўна славяцца высокімі дасягненнямі беларускія шашысты. Тытул мацнейшай на планеце носіць Алена Альтшуль. І вось новае паведамленне з Галандыі: мінчанін Анатоль Гантварг адстаяў сваё званне чэмпіёна свету ў матчы з галандцам Робам Клеркам.

■ У кастрычніку ў Іспаніі прайшло першынство свету па мастацкай гімнастыцы. Парадавала нас пятнаццацігадовая мінчанка Марына Лобач. У практыкаваннях са скакалкай дэбютантка ўзнагароджана сярэбраным медалём.

■ Акрамя афіцыйных спаборніцтваў, група беларускіх спартсменаў удзельнічала ў таварыскіх сустрэчах з замежнымі спартсменамі. Нядаўна Мінск наведалі бадмінтаністы Бірмы і шахматысты Індыі. У гэтых сустрэчах мацнейшымі былі спартсмены БССР.

### РЭЧКІ-НЕВЯЛІЧКІ

Не будуць мялець больш малыя рэкі Уса, Ператута і Самацечка. Клопат пра іх узялі на сябе калгасы і саўгасы Дзяржынскага раёна. Сіламі земляробаў тут пабудавана каля паўсотні шлюзаў і дамб, дваццаць сажалак. У поймах высаджаны лесаахоўныя палосы, умацаваны берагі. Пры ўсіх жывёлагадоўчых фермах і комплексах пачалі дзейнічаць ачышчальныя збудаванні.

На тэрыторыі Мінскай вобласці налічваецца некалькі тысяч такіх рачулак. Сваімі водамі яны сілкуюць галоўныя блакітныя артэрыі паўночнага захаду рэспублікі — Нёман і Бярэзіну. Аднак пад уплывам меліярацыі, сельскагаспадарчай і прамысловай дзейнасці рэчкі-невялічкі часта мялеюць, забруджваюцца шкоднымі сцёкамі.

Цяпер па рашэнню абласнога Савета народных дэпутатаў за экалагічны стан рэк адказваюць самі вяскоўцы. Паўсюдна яны стварылі спецыяльныя санітарныя брыгады, якія не толькі сочаць за ачысткай сцёкаў, але і вядуць вялікую работу па ўзвядзенню на рэках гідратэхнічных збудаванняў, закладцы лесаахоўных насаджэнняў, расчыстцы заглееных участкаў.

## НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

### „ДЗІКІЯ ГУСІ" ЛАС-ВЕГАСА

Журнал „Солджэр оф форчун" — гэта не толькі месячнік „прафесіянальных аматараў прыгод". Гэта і арганізацыя аднадумцаў: наймітаў, амерыканскіх ветэранаў з В'етнама і Карэі, заўзятых антыкамуністаў. Журнал прапаведуе насілле і вайну, актыўна вярбуе новых прыхільнікаў. Адзін са спосабаў у гэтай вярбоўцы — штогадовыя з'езды.

У гэтым годзе з'езд праходзіў у Лас-Вегасе у атэлі „Сахара" і быў самым многалюдным — у ім удзельнічалі 1200 дэлегатаў.

„Солджэр оф форчун" паклапаціўся аб тым, каб дэлегаты максімальна павысілі сваю тэарэтычную падрыхтоўку і ўдасканалілі практычныя навыкі. На працягу пяці дзён ім чыталі лекцыі і даклады на такія тэмы, як „Людзі супроць танкаў", „Тактыка вулічнага бою".

„Дзікія гусі" — так называюць наймітаў — адчувалі сябе на сучасным дзікім захадзе ЗША цудоўна. Яны расхаджвалі па Лас-Вегасу ў баявой маскіровачнай форме, абвешаныя зброяй даслоўна з галавы да ног, і ніхто іх не спыняў, паколькі ў штаце Невада вогнестрэльная зброя ў пашане.

Для жадаючых папоўніць свой асабісты арсенал была адкрыта выстаўка-продаж „Баявая зброя. „Экспо-85" — 300 стэндаў з вогнестрэльнай і халоднай зброяй і рознай амуніцыяй. У якасці сувеніраў дэлегаты раскуплялі майкі з цынічнымі людаедскімі надпісамі: „Не псуй сабе нервы. Удар па паганцах ядзернай бомбай!"; „Забі іх усіх, а Гасподзь сам з імі разбярэцца"; „Едзь у Ліван і арганізуй сірыйцу сустрэчу з Аллахам".

Асаблівай папулярнасцю карыстаўся ў дэлегатаў „Магазін тавараў для выжывання" дзе запасліввым гаспадарам, размічваючым спакойна перажыць „ядзерную вайну", прапанаваўся багаты набор прадметаў першай неабходнасці на гэты выпадак. Быў у магазіне і кніжны прылавак. Тут прадаваліся такія шэдэўры, як „Кулінарная кніга анархіста", у якой змешчаны рэцэпты вырабу ўсялякіх бомб, або паўтомная праца Джона Мінеры „Як трэба забіваць". Скрупулёзнаму апісанню розных спосабаў знішчэння людзей аўтар зрабіў дужа жыццерадасную прадмову, сэнс якой зводзіцца да таго, што ахвярам прафесіянальных забойцаў грэх скардзіцца на свой лёс, паколькі іх адпраўляюць на той свет „хутка, эфектыўна і практычна безбалесна".

Не забылі арганізатары і тых, хто вышэй слова ставіць справу. Заплаціўшы 200 долараў, удзельнікі з'езда маглі прыняць удзел у паляванні на чалавека ва ўмовах, максімальна набліжаных да баявых — у гарачай камяністай пустыні штата Невада.

Спісак тых, каго ненавідзяць чытачы „Солджэр оф форчун" і каго яны марацць знішчыць, вялікі і разнастайны. Вораг нумар адзін — камунізм і ўсе тыя, каго яны падазраюць у сімпатыях да камуністаў. У спіску лічацца сандзіністы, палесцінцы, усе прыхільнікі міру, актрыса Джэйн Фонда. Нават рэдактара „Вашынгтон пост" гэтыя людзі падазраюць у сімпатыях да камуністаў.

Такое маральнае аблічча і інтэлектуальны ўзровень тых, чыімі паслугамі так ахвотна карыстаецца ЦРУ.

**В. Ж.**

# Патрэбныя сустрэчы

25 кастрычніка б.г. у клубе БГКТ у Бельску адбылася сустрэча з Зосяй Сачко. Была яна другой у гэтым культурна-асветным сезоне пасля сустрэчы з Ірынай Баравік у верасні.

Вершы Ірыны Баравік і Зосі Сачко пачалі друкавацца ў „Ніве“ ў сямідзесятых гадах, калі быў ураджай на паэтычныя дэбюты маладога пакалення. Ірына Баравік (зборнік вершаў „Супраць ветру“, выдадзены ў БГКТ у 1979 годзе) і Зося Сачко („Пошукі“ — 1982 г.) маюць за сабой кніжныя дэбюты. Адолеўшы першыя прыступкі, цяпер яны ў штодзённай прозе дарослага жыцця шукаюць сваіх паэтычных сцежак. Амаль кожны пішучы пачынае ад запісу ўласных пачуццяў: ад свайго „я“. І калі думкі ў форме літаратурных твораў даступныя ў грамадстве, тады аўтар пачынае цікавіцца ўспрыманнем іх іншымі. Адчувае патрэбу дыялогу, шукае кантакту з чытачамі. Хоча ўзбагаціць свой творчы дыяпазон. Менавіта такі характар мелі сустрэчы з паэтэсамі ў бельскім клубе.

На спатканні з невялікай групай зацікаўленых Ірына Баравік сканцэнтравала ўвагу на сваёй паэме (без загалоўка), надрукаванай у Беларускім календары на 1985 год. Гэта яе першая паэма. Напісана яна на гаворцы роднай вёскі Мора. Аўтарка верна паказала ў ёй спецыфіку асяроддзя, у якім выхавалася. У літаратурнай форме перадала істотныя аспекты народнай філасофіі, якія фарміравалі пачуцці маладой дзяўчыны і яе светабачанне. Матывы ўзяты аўтаркай з назіранняў за жыццём. Паэма выклікала сярод прысутных цікавыя разважанні. Выказваліся сцвярджэнні, што трэба цаніць традыцыі і культуру свайго народу, захаваць хараство яго характару, каб не хварэць душой, каб мець сваё месца на Зямлі.

Сустрэча з Зосяй Сачко прайшла ў іншым настроі, мела сваю спецыфіку. На гэты раз прыйшло некалькі вучняў беларускага ліцэя. Была магчымасць пазнаёміцца з паэтэсай, якая жыве і працуе ў Бельску, і паслухаць яе вершы, напісаныя і даўней, і ў апошні час. Яны розняцца ўспрыманнем акружаючага наваколля, назіраннямі за праявамі жыцця. Тэматыку вершаў Сачко можна акрэсліць імкненнем асэнсавання сябе ў свеце. Аўтарка піша цяпер выключна на дыялекце. Яна сама сцвярджае, што беларуская літаратурная мова не з'яўляецца яе стыхіяй. А гэта, аднак, збядняе пераказ паэтычнымі сродкамі. Аднак экспрэсія думак паэтэсы робіць на слухачоў моцнае ўражанне, выклікае цікавасць да яе творчасці. Маладыя людзі найбольш цікавіліся матывамі, якія інспіруюць вершы, творчым працэсам і яго спецыфікай у паэзіі. Сустрэча выклікала жаданне далейшага беспасрэднага кантакту з літаратурным беларускім словам.

Абедзве аўтарскія сустрэчы паказалі на неабходнасць такой формы культурна-асветнай дзейнасці ў бельскім клубе БГКТ. Неабходна выкарыстаць спрыяючыя акалічнасці, каб аўтарскія сустрэчы „белавежцаў“ сталі тут добрай традыцыяй. Прытым аднак трэба падыходзіць да справы з сэрцам, шырэй інфармаваць аб іх людзей, а таксама сустрэчы павінны быць добра падрыхтаваныя.

Варта, каб у сустрэчах прымала ўдзел як найбольш людзей, што цікавяцца беларускай культурай. Гэта і нагода, каб распаўсюдзіць выдавецтвы БГКТ.

**Ян Мордань**



**Свята ў Рыбалах. Фота В. Рудчыка.**

## ХРОНІКА

■ 11 кастрычніка 1985 г. адбылася сустрэча членаў дыскусійнага клуба ПРОН пры Гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку. З дакладам на тэму „Умовы фармавання беларускай нацыянальнай свядомасці ў праваслаўным асяроддзі“ выступіў і дыскусію вёў мгр Антон Мірановіч.

■ 20 кастрычніка 1985 г. адбыўся сход гуртка БГКТ у Паўднёвым Востраве. На сходзе былі абмеркаваны справы павышэння актыўнасці гуртка ў вясковым асяроддзі.

■ 22 кастрычніка 1985 г. на Прадпрыемстве лясной вытворчасці „Ляс“ у Гайнаўцы арганізаваўся гурток БГКТ, які налічвае 22 члены. У састаў праўлення гуртка ўвайшлі: Галена Ігнацюк — старшыня, Аляксандр Рошка — намеснік старшыні і Галена Карнілюк — сакратар.

■ 24 кастрычніка 1985 г. у Дубічах Царкоўных адбылося пленарнае пасяджэнне праўлення аддзела БГКТ, прысвечанае задачам аддзела па рэалізацыі пастаноў X з'езда. У пасяджэнні ўдзельнічаў намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня.

■ 29 кастрычніка 1985 г. у клубе БГКТ у Беластоку гурток пенсіянераў БГКТ наладзіў святкаванне Дня сеньёра. З канцэртам для ўдзельнікаў вечарыны выступіў жаночы хор Гарадскога аддзела БГКТ.

■ 3 лістапада 1985 г. самадзейнікі Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку выступілі перад жыхарамі Вулькі Нурэцкай і Клюкавіч. Тэатральны гурток выступаў з пастаноўкай „Ажаніся-весяліся“, а жаночы хор — з народнымі беларускімі песнямі.

**В. Луба**

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# РАТУНАК

Як кожная маладая дзяржава ў сярэднявеччы, таксама Вялікае княства Літоўскае паўставала, развівалася, і мацнела ў жорсткай унутранай барацьбе. Княжацкі род Рынгольдавічаў, асабліва выдатны палітык, дзяржаўны дзеяч і военачальнік Міндоўг (нарадзіўся каля 1200 г. — загінуў у 1263 г.), каб умацаваць сваю ўладу, рознымі спосабамі распраўляўся з тымі ўдзельнымі князькамі, якія не хацелі падпарадкавацца яго ўладзе. Прытым, як паўсюдна было ў сярэднявеччы, не грэбаваў ён патаемным забойствам, атрутай ці выгнаннем у чужыну. Аднак самым пашыраным і самым эфектыўным сродкам на непакорлівых і мяцежных было пазбаўленне іх маёмасці ды перавод на службу ў іншыя ваколіцы дзяржавы. Здабытая такім чынам зямля, нявольныя сяляне і іншыя багацці станавіліся ўласнасцю пануючага вялікага князя літоўскага.

Ён найбольш даходныя далучыў да ўласных „гаспадарскіх“, г. зн. вялікакняскіх уладанняў. Часткай жа за верную службу абдорваў часовым або пажыццёвым карыстаннем за адпаведную даніну і паслугі сваіх бліжэйшых і далейшых родзічаў ды найбольш заслужаных службоўцаў. Незагаспадараныя ды найменш ураджайныя кавалачкі „выпускаў“ у карыстанне рознаму вольнаму звычайнаму люду, абавязваючы яго ўдзельнічаць у ваенных паходах, ахоўваць дзяржаўныя граніцы, будаваць і абараняць крэпасці, даглядаць за спраўнасцю і бяспекай дарог, браць удзел у пасыльной службе і інш. Такім чынам, значэнне і роля неймаверна размножаных дынастый удзельных князёў зводзілася на нішто, затое ва ўсім грамадстве расло і мацнела значэнне цэнтральнай дзяржаўнай улады — вялікага князя і пануючай дынастыі — ад волі, а часам і капрызу якой залежаў лёс штораз большай часткі тадышняга грамадства Вялікага княства Літоўскага.

Гэтыя вельмі істотныя пераўтварэнні без асаблівых перашкодаў праводзіліся на беларускіх землях, дзе грамадству асабліва надакучылі грызня ды руйнуючыя братабойчыя войны паміж удзельнымі князямі. Спрыяла ўмацаванню цэнтральнай дзяржаўнай улады таксама свядомасць вісеўшай над краінай пагрозы татарскага нашэсця і нападаў з боку падлеглых татарскаму хану рускіх князёў. Аднак, калі Міндоўг спрабаваў ажыццявіць такія ж пераўтварэнні ў Жамойціі, то наткнуўся там на рашучае супраціўленне. Аднароднае этнічна жамойцкае насельніцтва ўспрыняло наступ Міндоўга і яго беларускай дружыны і двара як нашэсце чужынцаў. Разгарэлася барацьба. Спачатку Міндоўгу ўдалося зняць сваіх пляменнікаў, жамойцкіх князёў Таўцівіла, Эдзівіда і іхнага дзядзьку Выкінта, і як сваіх падданых накіраваць на службу ў Полацк, Віцебск і Смаленск. Але ў Жамойціі ўспыхнула паўстанне супраць беларускага панавання на чале з Міндоўгам, і „сядзеўшыя“ на выгнанні жамойцкія князі выйшлі з-пад падпарадкавання вялікаму князю і намагаліся злучыцца з паўстанцамі. Міндоўг спрабаваў іх абясшкодзіць, але ім удалося ўцячы да князёў Данілы і Васількі Раманавічаў ва Уладзімір.

Хоць Міндоўг і прыслаў да Данілы сваіх паслоў, кажучы: „Не чини има милости“, але валынскі князь дасканала разумеў, які моцны козыр супраць Вялікага княства Літоўскага трапіў яму ў рукі. Даніла Раманавіч не толькі і не падумаў на-

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 1)



самавызначэннем (сам сабе не вызначыш — дык хто іншы зробіць гэта за цябе).

Куптэль трапна падкрэслівае, што ў нашых умовах цяжэй быць беларусам, чымсьці палякам (пра нешта падобнае пісаў пятнаццаць гадоў назад кракаўскі публіцыст Ежы Ловэль у кніжцы „Польшча, якой не ведаем"). Гэта нават натуральнае. Аднак жа і небяспечнае для псіхікі, бо беларускія людзі са слабейшым характарам, апынуўшыся ў змешаным асяроддзі, кідаюцца ў падвойнасць (дома — беларус, на рабоце — паляк). Як доўга можна вытрываць у гэткай вечнай канспірацыі? І ці ўдасца дзяцей пагадаваць на сваіх? Барскі скажа: рэнегат, здраднік, падлыжнік, немаральная адзінка, словам — зброд, чалавек, які ашукаў перш сябе, а пасля і ўсіх... Адсюль лагічная выснова: не даеш рады быць беларусам, — дык будзь ты лепей адразу палякам! І маральна недвухзначна выглядацьмеш, і лягчэй жыцьмеш, працей і з псіхічным камфортам „свайго сярод сваіх". Ці Алесь задумаўся, каго і за што ён лае?

Сучаснае грамадства ў выніку шматлікіх драматычных прычын не ёсць талерантнае. Гэта зусім не значыць, што процібеларускаму нацыяналізму мы павінны супрацьставіць беларускі. Гэта не выхад, а ўсяго марны завулак, у канцы якога — чорная прорва. Нам трэба якраз перспектыўнага, жыццёва мудрага: уплываць на ўзнікненне пашаны да беларускага з боку небеларускіх супрацоўнікаў на рабоце ці суседзяў па кватэры. Супольна ж працуем дзеля супольнага, на тым жа возіку едзем, на адной галіне сядзім і г.д. Так, але тут дзейнічае закон кантрасту, бярэцца каркаць „сітуацыя белай вароны", і таму беларус вымушаны праявіць большую, вышэйшую культуру нацыянальнага пачуцця, калі хоча застацца сабою і без комплексаў зацюканага асобеня. У гэтым, Міхась Куптэль, якраз і тая дадатковая нагрузка, цяжэйшая ноша беларускаму лёсу. І гонар большы, што „не паплыў, бы жаба з вадою". Беларускія рацыі гэта перш за ўсё рацыі годнасці чалавека, хаця б тыпу: чаму я абавязкова павінен быць іншым, чаму гэта дрэнна ёсць заставацца сабою, і г.д.

Хлопцы-дыскутанты парабіліся страшэнна баявітымі! А ўжо наймацней дрыжу я за Барскага, каб яму хто чаго благога не ўчыніў. Жарт, вядома, але не без дай прычыны. Барскі „дае піць" нашаму ідыятызму. Але часамі перабірае ён мерку, калі гаворыць такое, што не стасуецца да беларусаў, а да палякаў менавіта. Чаму тады не спрабуе ён таго, напрыклад, на старонках беластоцкіх „Кантрастаў"? Па-мойму, учцівей было б выказаць беларускія жалі ў польскія вочы, чымсьці... за вочы (г.зн. у незразумелай польскаму чытачу „Ніве"). Існуе ж і „Кур'ер падляшскі" са спецыяльнай рубрыкай „З беларускага боку".
Справа надта сур'ёзная, якую

(Працяг на стар. 6)





**У закрытай ужо капальні гравію ў Белавежы знаходзіцца валун, які варта ахапіць аховай. Яго акружнасць — 6,2 м, вышыня — 1,3 м.**

# АХОЎВАЕМ ВАЛУНЫ

Валуны, якія з тэрыторыі Скандынавіі „рассяляліся" ў час плейстацэнскага абледзянення па паўночнай Еўропе, пастаянна знікаюць з нашага краявіду. Вінаваты ў гэтым перш за ўсё сам чалавек. Ён жа ад стагоддзяў эксплуатуе іх, выкарыстоўваючы для мэтаў будаўніцтва, абароны ці культу. Валуны ішлі на крэпасныя збудаванні, палацы, храмы, на брук. У дахрысціянскі перыяд выкарыстоўваліся як ахвярныя алтары. У нашы часы знішчэнне валуноў намнога абмежавалася, але здараюцца выпадкі, калі яны яшчэ гінуць пад ударамі молатаў несвядомых сваіх учынкаў грамадзян. Не ўсе ведаюць, што існуе ў нашай дзяржаве ад 1949 г. закон і распараджэнне, якія забараняюць разбіваць валуны акрэсленага размеру. Усе яны з'яўляюцца для навукі каштоўнымі сведкамі мінулага нашай зямлі.

Спецыялісты сцвярджаюць, што пад аховай павінен быць кожны валун, акружнасць якога не меншая за 2,7 м. Але не толькі размер павінен вырашаць аб ахове. Ёсць жа шмат валуноў, на якіх у гістарычных перыядах людзі рабілі розныя надпісы, увекавечвалі якіясь падзеі. Часта гэтыя надпісы — адзіны існуючы дакумент такой падзеі. Сустракаем таксама валуны, якія хтосьці ў мінулым абрабляў, надаючы ім акрэслены выгляд, напрыклад, нейкай постаці ці яе фрагменту. Такія экземпляры грамадства таксама павінна захоўваць. Яны — дакументы мастацтва!

Добрым спосабам захавання валуноў ад знішчэння з'яўляецца выкарыстоўванне іх у якасці помнікаў. Вось, напрыклад, у Белавежы захавалі такім спосабам два валуны. Адзін знаходзіцца пры ўездзе ў мясцовасць з боку Гайнаўкі і вызначае цэнтр Белавежскай пушчы, другі „стаіць" перад царквой і ўвекавечвае памяць аб загінуўшых тут ад рук гітлераўцаў жыхарах Белавежы і навакольных вёсак. У Гайнаўцы ў верасні г.г. паставілі валун у памяць сына беларускай зямлі — узводнага Баляслава Бервячонка.

У Беластоцкім ваяводстве аховай ахоплена дагэтуль каля 50 валуноў. Найвялікшы з іх знаходзіцца ў Карыцiне. Яго акружнасць пры зямлі — 10,37 м, даўжыня — 3,10 м, шырыня — 2,05 м. На тэрыторыі Беларусі найвялікшы валун знаходзіцца ля вёскі Горкі, Шумілінскага раёна (памеры: 11х5,6х2,8 м).

Напэўна ёсць у нас яшчэ шмат валуноў, якія не трапілі ў спісак ваяводскага захавальніка прыроды, а маюць для гэтага ўсе даныя. Дык звяртаюся да чытачоў „Нівы" з заклікам. Калі хто ведае пра існаванне такога (або такіх) валуноў, давайце знаць захавальніку ў Беластоку або паведаміце вядомаму вам дзеячу аховы прыроды. Не будзе таксама неадпаведна, калі напішаце ў наш тыднёвік. Валуны, хаця і „нямыя" сведкі мінуўшчыны, многа чаго могуць сказаць. Вучаць не толькі геалогіі, але таксама прыродзе і гісторыі, апрача таго — а мо перш-наперш узбагачаюць і ўносяць разнастайнасць у краявід.

Тэкст і фота **Пятра Байко**

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# РАТУНАК

(Працяг са стар. 3)

ват адсылаць перабежчыкаў у Наваградак, але наадварот, сардэчна прыгалубіў іх ды, прыкрываючыся высакароднай місіяй вярнуць пакрыўджаным іхныя пасады ды пакараць крыўдзіцеля, зараз жа ўзяўся рыхтаваць вялікі паход супраць Вялікага княства Літоўскага.

Забяспечыўшы Выкінта адпаведна вялікай колькасцю срэбра, накіраваў яго ў Яцвягію, Жмудзь ды да рыжскіх мечаносцаў падымаць іх на вайну супраць Міндоўга. Галіцка-Валынскі летапіс сцвярджае, што Выкінт з заданнем справіўся належна: „сребром и дарми многими ятвязе и пол Жимойти" ды магістра Ордэна мечаносцаў Андрэя Стырланда „убеди". Паслу да князёў польскіх Даніла загадаў сказаць: „Цяпер час ісці хрысціянам на паганых, таму што ў іх вайна паміж сабою". Спачатку палякі згадзіліся прыступіць да кааліцыі, але потым, мабыць, разважылі, што, ваюючы супраць Вялікага княства Літоўскага, яны фактычна ўзмацняюць сваіх праціўнікаў: Яцвягію, крыжаносцаў і Галіцка-Валынскую Русь, і таму ад удзелу ў паходзе адмовіліся. Несумненна, на такое рашэнне паўплывала таксама дыпламатыя Наваградка.

Над Вялікім княствам Літоўскім павісла смяротная пагроза.

Сабраўшы аграмадныя войскі, у тым ліку і значную колькасць полаўцаў, першымі ўдарылі галіцка-валынскія князі. Узімку 1250 г. рушылі яны з Валыні ў трох напрамках: на Ваўкавыск, Слонім і Здзітаў. Але Вялікае княства Літоўскае не ўпала на калені: баранілася з усіх сіл. І хоць валынцы „поимаша грады многы", аднак сталіцы Вялікага княства Літоўскага не здабылі, яго галоўных ваенных сілаў не разбілі і „звратишася в домы".

І так, з вялікай хмары пападаў невялікі дождж. Аднак найбольш прыкры ён быў для Пабужжа, бо ў выніку гэтага паходу было, мабыць, „зваявана", г.зн. моцна абрабавана, валынскімі войскамі беларускае Берасцейскае княства. Яшчэ горшы аказаўся паход Таўцівіла, які са сваёй дружынай і значнымі галіцка-валынскімі і палавецкімі сіламі рушыў з Уладзіміра на Яцвягію і далей у Жамойцію і Рыгу. Няма сумнення, што па дарозе ён спустошыў землі Дарагічынскага княства. Ці ўжо тады, у 1250-51 гадах гэтыя абодва беларускія княствы былі прымусам далучаны да Галіцка-Валынскай Русі — няма ўпэўненасці.

Вайна ішла з пераменным шчасцем: раз перамагала кааліцыя — Галіцка-Валынская Русь, Яцвягія, Жамойція і Ордэн мечаносцаў, другі — самотнае Вялікае княства Літоўскае.

Калі паўднёвыя, заходнія і паўночныя яго землі палалі, ворагі здабывалі і знішчалі гарады і крэпасці, рабавалі маёмасць, ганяліся за людзьмі, а злоўленых вязалі ды дзесяткамі тысяч гналі ў свае ўладанні, каб там абярнуць іх у нявольнікаў ці прадаць на нявольнічых рынках у Судаку, Празе, Гданьску ці Рызе, здавалася, што лёс Вялікага княства Літоўскага



Ю. Налівайка.

му-небудзь невядома: дваюраднага брата Сяргея Лукашука — кіраўніка бельскіх „Васілёчкаў“. І як тут не гаварыць пра Лукашукову эпоху ў беларускім спяванні на Беласточчыне? Плённая эпоха, багатая, амбітная. Гайнаўскі хор ачароўвае і моцнымі галасамі, асабліва мужчынскімі, і свежасцю і высокім выканаўчым узроўнем. Мае ён і сваю адметную ўласцівасць — замілаванне да лірыкі, асаблівай, далікатнай пачуццёвасці. Прыгадайма хоць бы вытанчаную „А ў полі вярба“ ці срэбразвонную „Купалінку“. Але А. Лукашук не забывае і пра козыры свайго калектыву — магутныя басы, і яны паказалі сябе надта ж красачна ва ўкраінскай „Роспрагайтэ, хлопці...“ Так, БГКТ па праву можа ганарыцца новым сваім набыткам — выдатным беларускім хорам з Гайнаўкі.

Праўда, у супастаўленні з прадстаўленымі хорамі крыху скрамней выглядаў васьміасабовы калектыў з Беластока. І не толькі лікам спевакоў (у бельскім і гайнаўскім па 34 чалавекі!), але і рэпертуарнымі пошукамі (замала беларускіх песень!). Аднак вакальная магчымасць і выканаўчы ўзровень беластачан зусім не ўступае іхным бельскім і гайнаўскім сябрам. Хоць С. Копа і В. Макац працуюць нядаўна ды і ў калектыве большасць новых спевакоў, усё ж ужо відаць абяцаючы плён стараннеяў і харыстаў і кіраўнікоў. Добра было б, каб больш смела калектыў уводзіў у свой рэпертуар сучасныя беларускія песні, хоры і арыі з беларускіх опер і аперэт, каб у гэтым знайшоў свой адметны шлях. Бо выканаўцы паказалі сябе вельмі карысна і не толькі наша славутасць і любіміца Люба Гаўрылюк. Ну, і актыву Беластоцкага аддзела БГКТ трэба больш прыкласці намаганняў, каб прыхіліць у хор больш людзей. Ці беларусы ў Беластоку страцілі галасы, ці не любяць спяваць?

Незвычайную неспадзеўку паднёс беластаччанам Гарадок: мы ўжо звykліся з іхнымі жаночымі звонкімі галасамі, а тут раптам мужчынскі голас і то адзін, але добры! У выкананні Ю. Налівайкі асабліва ўзрушыла слухачоў песня І. Лучанка на словы Н. Гілевіча „Вы шуміце, шуміце...“

Жывасці і свойскасці канцэрту прыдаў сваім канферансам Я. Крупа.

Прыемная гэта была сустрэча з родным. Каб часцей толькі!

**М. Гайдук**
Фота аўтара



Л. Гаўрылюк у дуэце з Я. Крупам.

пы перш за ўсё як даверанага працаўніка бяспекі, а таксама яшчэ і таму, што Дзмітрыю Макараву ўжо даводзілася пабываць у раёнах іх цяперашняга прызначэння. Ад позняй восені 1939 года аж да няшчаснай нядзелі ў чэрвені 1941 года быў ён начальнікам раённага аддзялення Народнага камісарыята ўнутраных спраў у Высокалітоўску. А з Высокага ў Кляшчэлі, па маштабах Савецкага Саюза, проста рукой падаць, не больш 30 кіламетраў.

Ён пачаў прыкідваць у памяці, каго з мясцовых дзеячоў ён ведае, на каго можна спадзявацца, хто астаўся стойкім камуністам, ад каго пачаць сваю арганізатарскую і баявую дзейнасць?

Вядома, найлепш было б пазнаёміцца з даўнейшымі членамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Толькі — хто захоча ва ўмовах акупацыйнага рэжыму прызнацца да прыналежнасці ў КПЗБ? А да таго ж гэтая партыя яшчэ ў 1938 годзе была распушчана Камінтэрнам з увагі на тое, што ў яе кіраўніцтва быццам бы пранікла варожая разведачная агентура. Фальшывасць гэтых абвінавачанняў выявілася намнога пазней, ужо пасля вайны, у лютым 1956 г. Тады, аднак, аб правадырах КПЗБ гаварылася ўголас як аб ворагах народа, і Дзмітры Матвеевіч як кадравы працаўнік дзяржаўнай бяспекі, вядома, безагаворачна падзяляў гэтакае меркаванне, хаця разумеў, што недарэчліва было б лічыць, што ўсе члены КПЗБ пайшлі ў здраднікі і шпіёны. Пераканаўся ён у гэтым яшчэ ў час сваёй пабыўкі ў прыгранічным Высокалітоўскім раёне. То ж менавіта даўнейшыя камуністы ў першую чаргу хлебам ды соллю і трыумфальнымі варотамі віталі на сваёй зямлі рабоча-сялянскую Чырвоную Армію, калі яна ў верасні 1939 года ўзяла пад сваю апеку жыхароў заходніх раёнаў падзеленай Беларусі.

Усё ж трэба асцерагацца. Тут жа так цяжка даводзілася ажыццяўляць дырэктывы свайго кіраўніцтва. Возьмем, для прыкладу, калектывізацыю вясковай гаспадаркі.

За невялічкім самалётным акном начную цемру прашыла нейкая вогненная істужка, а за ёй наступная і яшчэ наступная. Гэта вырвала Дзмітрыя Макарава з яго даволі горкіх роздумаў. Ад пілота паследавала каманда:

— Мы над лініяй фронта. Падрыхтавацца да ЧП!

Гэтае „ЧП“ абазначала „чрезвычайное положение“. Да гэтага „ЧП“ рыхтаваліся яны ў час вучэбных скачкоў з парашутамі.

Дзям'ян Матвеевіч прыціснуўся плячыма да стальнога корпуса самалёта, які чамусьці то цяжка ўзнімаўся ўверх, то са свістам, стрымгалоў ляцеў уніз, аж вушы болем напаўняліся, а кішкі пад горла падплывалі, то зноў крута паварочваўся ў бакі.

За плячыма пачуў ён мяккі скрутак парашута, левай рукой прыціснуў да сябе аўтамат, а правай ухапіўся за кальцо парашута. Чорт вазьмі! Хай дзееец-

(Працяг на стар. 8)




І загаварылі мы аб „шчаслівай сям'і“. А што гэта такое? З чым яго ядуць? Кожны цягне ў свой бок, укладвае ў аб'ём паняцця свой сэнс. І, відаць, нельга тут вызначыць строгую тэорыю, прыдатную для ўсіх. Бо што такое „шчаслівая сям'я?“ Перш за ўсё, удакладнім тэрмін „шчасце“. У тлумачальным слоўніку беларускай мовы расшыфроўваецца ён наступным чынам: „1. Стан поўнай задаволенасці жыццём, пачуццё найвялікшай радасці і задавалення. 2. Удача, поспех у чым-небудзь. 3. Лёс, доля“.

Паспрабуй абагульніць „стан поўнай задаволенасці жыццём“. У кожнага ён будзе розны. З чаго адзін цешыцца — іншы будзе плакаць.

Таму і я не бяруся вырашыць усплыўшага ў дыскусіі пытання, хачу толькі падзяліцца сваімі думкамі, можа каму прыдадуцца.

Дык што такое „шчаслівая сям'я“? Гэта сям'я, якая знайшла аптымальную раўнавагу сіл, і тут можа быць мноства варыянтаў. Ёсць сем'і, дзе першай скрыпкай жонка, а мужа цалкам задавальняе цёплае месцайка пад пятой. Ды і чаму пад пятой? Людзі розныя па сваіх характарах, і, калі сустрэліся два чалавекі, і жанчына больш энергічная і больш напорыстая, а муж больш інертны і больш спакойны, дык гэта не перашкодзіць ім жыць у любові і ўзаемнай пашане. Зусім таксама, як бываюць шлюбныя пары, дзе жонка і без пят на галаву вышэй мужа, і тры гэтым абое цудоўна сябе адчуваюць. Французскі мысліцель Себаст'ен Шамфор гаварыў, што муж і жонка могуць быць шчаслівымі, калі яны звязаны ўзаемнай любоўю ці хоць бы супольнымі заганамі.

Значыць, магчымасцей для існавання шчаслівых сем'яў у нас многа, але карыстацца імі патрапіць не кожны.

Шчаслівы



## МУЗЫКА І СПЕЎ (3)

Дырыжор.

Дырыжыраванне хорам у сучасным нашым значэнні ўзнікла толькі 150 гадоў таму. Але кіраванне хорам існавала вельмі даўно. На вельмі старых асірыйскіх і егіпецкіх барэльефах прадстаўлены групы іграючых на інструментах, а перад імі стаіць кіраўнік з палачкай у руках. Існаваў спосаб кіравання хорам, званы хейраномія (грэц. — рука плюс правіла). Гэта былі ўмоўныя рухі пальцаў і рук дырыжора, якія дапаўняліся рухам галавы і ўсяго цела.

У сярэдневякоўі існавала для кіравання хорам ці аркестрам спецыяльная палачка, званая батутай, ёю адбівалі такт. У

(Працяг на стар. 8)

## ТАЯМНІЦЫ НАВОКАЛ НАС

# Капуста не толькі жывіць




У часы майго юнацтва ў маіх родных ваколіцах быў звычай квасіць капусту ў лістападзе. Мужчыны ўжо закончылі палявыя работы, жанчыны сцёрлі лён і каноплі — надыходзіў час парадкавання капусты. Гэты звычай на самай справе захаваўся і па сённяшні дзень, толькі вясковыя жанчыны ўжо не займаюцца вырабам палатна, ходнікаў, мяшкоў і таму да квашання капусты бяруцца значна раней, адразу па Пакрове.

Пра выкарыстанне капусты ў хатняй гаспадарцы кожны з чытачоў ведае не горш за мяне. Варта, аднак, дадаць, што дзякуючы гэтай расліне калісьці ў бедных сялянскіх сем'ях людзі не хварэлі цынгой. Варта таксама папярэдзіць перад празмерным абжорствам нарыхтаванымі з яе стравамі (варанай капустай, бігасам і інш.). Капуста цяжкастраўная і яе нельга адначасна есці многа.

Людзі мала ведаюць пра лячэбныя ўласцівасці капусты, хоць у лячэбніках пра яе часта пішуць. Згадкі пра гэта можна знайсці ўжо ў творах Катона (234-149 да нашай эры), Дыяскурыда, Плінія і Галена. Капусту як лякарства часта ўжывалі старажытнагрэчаскія і старажытнарымскія лекары. Таксама з таго часу паходзіць шмат парадаў, з якіх вынікае, што тады капустай лячылі хваробы лёгкіх, пячонкі, суставаў і язву страўніка.

Да сённяшняга дня ў народнай медыцыне свежае лісце капусты ўжываюць як сродак супраць цынгі, выціснуты з яго сок (20-50 грамаў) прымаюць супраць глістоў, а 10-працэнтны вывар прымаюць 2-3 разы ў дзень па кубачку (паўшклянкі) як адхаркавальны сродак. Памытае лісце прыкладаюць да ран і прышчоў.

Сучасная медыцына праводзіць шырокія даследаванні лячэбных уласцівасцей капусты. Аказваецца, што ў гэтай расліне знаходзіцца шмат актыўных элементаў і перш за ўсё вітаміны A, $B_1$, $B_2$, C, K, і U, солі розных металаў і слізь. Варта дадаць, што самы багаты вітамінамі качан, які надта ж любяць дзеці, таму ніколі нельга яго выкідаць.

У афіцыяльнай медыцыне сок з капусты шырока прымяняецца (у рознай форме, таксама ў таблетках) у Савецкім Саюзе і Злучаных Штатах Амерыкі. Савецкія вучоныя правялі эксперымент: спецыяльна выклікалі язву страўніка ў марскіх свінак, затым пачалі даваць ім сок з капусты. Нягледзячы на тое, што далей давалі ім хімічны сродак, які выклікае язву, аднак яго ўздзеянне было затрымана, а язва пасля 6 тыдняў знікла. У ЗША лячэнне капустай прымяняе, між іншым, др Г. Шэнай. Ён атрымоўвае дасканалыя вынікі — лячэнне закончылася памысна амаль у 90 працэнтах пацыентаў.

Аднак даследаванні паказваюць, што капуста капусце няроўная. Важна тое, на якой глебе яна расце, які яе догляд, калі яе сабралі і перш за ўсё — ці той, хто яе гадаваў, любіць хімію. Капусту, вырашчаную на штучных угнаеннях або апырсканую хімічнымі сродкамі, для лячэння зусім не варта ўжываць, бо ў 90 працэнтах вядома, што яна не паможа.

Вырашчаная так як калісьці, на загоне, угноеным натуральным гноем, белая капуста (лацінская назва — Brassica oleracea var capitata alba) дзеля папярэджання захворвання ўжываецца сырой як салат. Асабліва часта такія сырыя салаты (дадаткі да другіх страваў) трэба даваць дрэнна выглядаючым ці анемічным дзецям.

Хворыя язвай страўніка і дванаццаціперснай кішкі, апрача запісаных лекарам лякарстваў, могуць дадаткова ўзмацняць лячэнне, выпіваючы штодня нават да аднаго літра соку з капусты. Для лячэння сок атрымоўваюць пры дапамозе электрычнай сокавыціскалкі.

Даследуючы напісанае пра капусту, хацеў я даведацца, чаму капусны качан некаторыя лічаць сінонімам дурноты. На жаль, нічога такога не знайшоў. Значыць, усё паказвае, што гэтыя параўнанні цалкам беспадстаўныя.

**Б. Паскробка**

## ЦІКАВІНКА

(Працяг са стар. 7)

XVII—XVIII стаг. дырыжор іграў на клавесіне або арганах і адначасова даваў хору знакі галавой, пальцамі і вачыма (Бах), часта адбіваючы такт нагой.

Цяперашні спосаб дырыжыравання зацвердзіўся вялікімі кампазітарамі: Берліёзам, Мендэльсонам, Бетховенам, Вагнерам і Лістам.

Развіццё музыкі ў старыну ў розных краінах (Месапатамія, Палестына, Сірыя, Егіпет) давяло да паяўлення ў Грэцыі т э о р ы і м у з ы к і. Тэорыя музыкі вывучае гукі, інтэрвалы, сугучнасці, лады, танальнасці, метр, рытм, тэмпы, тэмбры, дынаміку, мелодыю, акорды і г.д. Усе гэтыя словы грэцкага паходжання. Выдатныя грэцкія філосафы V-VI стагоддзяў да нашай эры — Эсхіл, Сафокл, Эўрыпід былі адначасова паэтамі, кампазітарамі і спевакамі. Яны выконвалі галоўныя ролі ў сваіх выдатных драмах, якія ставіліся ў Грэцыі з нагоды розных урачыстасцей. Хоры ў гэтых драмах былі невялікія — да 12 харыстаў. Грэцкія філосафы трактавалі музыку як частку філасофіі.

Сваім руслом развівалася ў музыцы яўрэйская плынь, якая была выключна рэлігійнага характару і ў будучым аказала вялікі ўплыў на хрысціянскі спеў.

Калі Палестыну ўзялі ва ўладанне спадчыннікі Аляксандра Македонскага, яны пачалі праследаваць яўрэяў і іх вераванне. Хацелі насадзіць элінскую (грэцкую) культуру і грэцкіх багоў. Яўрэі бараніліся і гуртаваліся ў абшчыны — кагалы і гэтак практыкавалі сваю службу. Галоўны спявак — кантар, спяваў тэкст спосабам кантыляцыі — гэта было рэчытатыўнае працяжное чытанне тэксту з меладычнымі ўстаўкамі і распевамі. Уся царкоўная музыка наступных стагоддзяў аж да нашых дзён носіць рысы стараяўрэйскага храмавога спеву. Знаменны распеў праваслаўны, грыгарыянскі харал каталіцызму і пратэстанцкі харал лютаранскай царквы ўспрынялі ўплывы народнай музыкі сваіх краін, але захавалі моцныя рысы стараяўрэйскага спеву. (авл)

# НАЧНЫ ПАЛЁТ

(Працяг са стар. 7)

ца гэтае „ЧП“! Каб толькі жывым у рукі гітлераўцаў не папасці! Не, жывым яны мяне не возьмуць!

Паглядзеў у люк самалёта. Захацелася запамятаць пералёт над лініяй фронта. Толькі дзе ён, гэты фронт? То ж не прайшло нават і гадзіны часу ад іх вылету з падмаскоўскага аэрадрома. У зводках Савецкага інфармацыйнага бюро, якія давялося яму чытаць і слухаць у пачатку жніўня 1943 года, усё яшчэ першае месца займалі паведамленні аб заўзятых баях пад Курскам, дзе гітлераўскае камандаванне яшчэ раз спрабавала перахіліць перамогу на свой бок і магутным бронетанкавым ударам не толькі ліквідаваць Курскі выступ, але і падрыхтаваць сабе зыходны плацдарм да наступлення на Маскву з паўднёвага флангу. Дзеля гэтага яны сканцэнтравалі ў раёнах Арла і Харкава каля 900 тысяч салдат, 2700 танкаў, у тым ліку навейшых тыпаў — „Тыграў“ і „Пантэраў“, 10 тысяч гармат і мінамётаў. Аперацыя атрымала назву „Цытадэль“. І гэтая цытадэль рухнула, як гліняны гаршчок, пад контрударамі Заходняга і Бранскага франтоў.

Бітва пад Курскам прадаўжалася да канца жніўня і тады, калі Дзмітры Макараў разам са сваімі таварышамі знаходзіўся на борце самалёта, яе вынік быў яшчэ невядомы. Спачатку гітлераўская армія дабілася шматзначных поспехаў. Таму ў зводках Савінфармбюро гаварылася аб заўзятых баях і контрнаступленнях на Арол і Харкаў. Яшчэ геройскі трымаўся ў блакадзе Ленінград.

Усё гэта, вядома, суцяшала Дзмітрыя Матвеевіча і яго таварышаў, але ён таксама ведаў, што ад лініі фронта да Масквы ў некалькі разоў бліжэй, чымсьці да Кляшчэлеўскага раёна ў Брэсцкай вобласці, куды пасылала іх камандаванне Беларускага штаба партызанскага руху. Гэта быў яшчэ глыбокі варожы тыл. Як цяпер там людзі жывуць? Як яны адносяцца да Савецкай улады? Якое будзе яго вяртанне ў гэтыя старонкі?

Самалёт зноў уклаўся ў роўны курс. Макараў зразумеў, што яны шчасліва праскочылі лінію фронта. Думкі паплылі болей спакойна. Ён успомніў сваё першае сутыкненне з ворагам у прыгранічным мястэчку Высокае.

У суботу 21 чэрвеня ў раённае аддзяленне НКВД паступіла данясенне, што недзе ў раёне вёскі Аўгустынка нейкі самалёт выкінуў на парашутах нейкіх людзей. Такія паведамленні ў апошнім часе здаралася Макараву атрымліваць усё часцей. Гітлераўскае кіраўніцтва, рыхтуючы сваю ваенную авантуру, загадала вермахтаўскай разведцы дакладна „прасветліць“ шлях будучага „маланкавага“ наступлення.

Калі ў паведамленні паявілася назва вёскі Аўгустынка, Дзмітрый Макараў адразу ўзняў баявую трывогу.

Зараз жа за Аўгустынкай распасціраецца аграмадны лес, якім можна прабрацца ў розныя месцы, дзе тады будаваліся ваенныя аб'екты, вельмі важныя для абароны цэлай краіны, для прыкладу, аэрадром, ваенныя гарадкі і надбужныя ўмацаванні. Начальнікі Дзмітрыя Макарава звярталі на гэта асаблівую ўвагу і таму ён неадкладна з атрадам сваіх „чэкістаў“ паімчаўся ў Аўгустынку. Да поўначы блукаліся яны па наваколлі, але без поспеху: парашутыстаў яны не выявілі.

Ад злосці завіталі да знаёмых сялян і парадачна ў іх пагасцяваліся ды пасля гэтага ўжо за поўнач вярнуліся ў Высокае, не ведаючы, што праз некалькі гадзін пачнецца вайна, аб чым ужо ў наступны раз.

**Віктар Рудчык**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Т. Палякова

# СКАРБ

Дайшла чарга і да гадзінніка, — падумаў шафёр вайсковага газіка радавы Ступкін. Вось сюды я яго паклаў, напэўна.

— Хлопцы, гадзінніка майго ніхто не бачыў? — спытаў Ступкін. І пашкадаваў, што спытаў.

— Слухай, Ступкін, ты што, пасміхаешся? — адказвалі яму. — Кожны дзень у цябе нешта гіне. Ва ўсіх усё цэлае, толькі ў вас з кухарам як змовіліся: то ключы гінуць, то відэльцы-лыжкі, цяпер вось гадзіннік. Пашукай лепш!

Ступкін ад прыроды быў чалавекам рассеяным і рэчы свае часта клаў абы-куды. А шафёрам быў добрым. За рулём варон не лічыў, ездзіў дакладна і заўваг ад начальства не атрымліваў. Тэрмін яго службы канчаўся, і нават начальнік заставы, для якога парадак быў важнейшы за ўсё, махнуў на Ступкіна рукой і перастаў крычаць на яго за недакладнасць. І вось тут з'явіўся на заставе нехта таямнічы, хто вырашыў навучыць радавога Ступкіна розуму. Пачалі ў Ступкіна гінуць рэчы...

Спачатку ён на гэта не звярнуў увагі. Ну, вялікая справа, ляжала жменя манет на шафцы — можа, хто памылкова ўзяў. Ну, значок знік. Далей горш — ключ ад стацыйкі машыны знік. Звычайны ключык, маленькі такі, а на ключы брэлок — круглы тэрмометр са стрэлачкай: глянеш — і адразу вядома, колькі градусаў на двары. Шкада брэлок, вядома. А з ключом наогул выйшла непрыемнасць, калі трэба было машыну заводзіць. Добра, што запасны ключык знайшоўся, бо не выкруціцца было б Ступкіну ад кары.

Аднойчы Ступкін працаваў у гаражы каля сваёй машыны. Бачыць Ступкін — дзяжурны ўпусціў двух хлапчукоў і, пагаварыўшы з імі, павёў у будынак заставы. Сам не ведаючы чаму, Ступкін кінуў анучу, якой чысціў машыну і падышоў бліжэй да акна канцылярыі. Акно было адчынена. За сталом сядзеў начальнік заставы і разглядваў ляжаўшую перад ім грудку прадметаў. Ступкіну адразу кінуўся ў вочы яго гадзіннік, які так і не знайшоўся да гэтага часу.

— Вось мы і думаем, — пачуўся голас аднаго з хлапчукоў, — што скарб гэты ў дупле не так сабе схаваны. Можа, нехта рыхтаваўся перайсці граніцу. Бачыце: тут грошы, і гадзіннік, і каштоўнасці — пярсцёнак, брошка. А галоўнае — компас, каб ведаць, куды ісці.

— Так, — падхапіў усміхаючыся начальнік заставы, па ўсім відаць, той нехта быў вельмі запаслівы. Відэльцы з лыжкамі і то не забыўся схаваць. А бачыш, Міша, лаўка ў двары на сонейку стаіць. Пакладзі на яе манету і лыжку.

Міша здзіўлена паглядзеў на начальніка і зрабіў так, як той загадаў.

Чакаць давялося нядоўга. Праз некалькі хвілін на лаўку села сойка. Пакруціла галавой, потым схапіла дзюбай лыжку і паляцела.

— Вось вам і той нехта, — падміргнуў да хлапчукоў начальнік заставы. — Пачакайце, яшчэ і па манету вернецца.

І сапраўды, сойка вярнулася па манету.

— Збегайце, хлопцы, праверце дупло, — сказаў начальнік.

Хлапчукі паімчаліся за вароты і, вярнуўшыся, сумна паклалі на стол украдзеныя сойкай рэчы.

— Вы што такія кіслыя зрабіліся? — засмяяўся начальнік. — Цешыцца трэба, што гэта не быў чалавек, а ўсяго толькі птушка. А за пільнасць вялікае вам дзякуй. І за знаходку.

Ступкін узяў у начальніка свае рэчы і дагнаў ля варотаў Мішу. Ён размашыста хлопнуў яго па руцэ і, ледзь сціснуўшы пальцы хлопца ў кулак, адышоў у бок. Глядзіць Міша — ляжыць на далоні брэлок. Круглы тэрмометр са стрэлачкай: глянеш — і адразу відаць, колькі градусаў тэмпературы на двары.



У гэтым навучальным годзе старэйшыя дзеці з Плёсак і ваколіц пачалі даязджаць у зборную школу ў Храбалы. У Плёсках жа засталіся самыя малодшыя — дашкольнікі, а таксама вучні 1, 2 і 3 класаў. Вось яны ўсе і на здымку разам са сваімі настаўнікамі. Усе дзеці любяць чытаць „Зорку", а малодшыя — слухаць, як чытае ім казкі настаўніца. Фота Я. Чэрнякевіч.

## Для самых маленькіх

К. Ушынскі

# КАЗКІ

### БІШКА

— Ану, Бішка, прачытай, што ў кніжцы напісана!

Панюхаў сабака кніжку, ды і пайшоў ад яе.

— Не мая гэта справа, — кажа, — кніжкі чытаць: я хату пільную, па начах не сплю, брашу, злодзеяў ды ваўкоў палохаю, на паляванне хаджу, зайку падпільноўваю, качку шукаю і цягну — хопіць з мяне.

### ВОРАН І САРОКА

Стракатая сарока скакала па галінах дрэва і няспынна трайкатала, а воран сядзеў моўчкі.

— Што ж ты маўчыш, кумок, ці не верыш у тое, пра што я табе расказваю? — запытала нарэшце сарока.

— Слаба веру, кумка, — адказаў воран. — Хто так многа балбоча, як ты, той, напэўна, шмат маніць!

### УМЕЙ ПАЧАКАЦЬ

Жылі сабе брат ды сястра, пеўнік ды курачка. Пабег пеўнік у сад і пачаў дзяўбсці зусім зялёныя парэчкі, а курка кажа:

— Не еш, Пеця! Пачакай пакуль парэчкі даспеюць.

Пеўнік не паслухаўся: еў і еў, ды так наеўся, што ледзь дадому дабрыў.

— Ох! — крычыць пеўнік. — Бяда мне! Баліць, сястрычка, баліць!

Напаіла курка пеўніка мятай, прыклала гарчычнік — і прайшло.

Выздаравеў пеўнік і пайшоў у поле: бегаў, скакаў, разагрэўся, успацеў і пабег да ручая піць халодную ваду, а курка крычыць яму:

— Не пій, Пеця, пачакай, пакуль астынеш!

— Не паслухаўся пеўнік, напіўся халоднай вады — і адразу ж пачало яго трэсці, ледзь дадому яго курка давяла.

Пабегла курка па доктара, прыпісаў доктар Пецю горкага лякарства, і доўга праляжаў пеўнік у ложку.

Выздаравеў пеўнік да зімы і бачыць, што рэчка лядком пакрылася. Захацелася пеўніку на каньках пакоўзацца, а курка і кажа яму:

— Ой, пачакай, Пеця! Дай рэчцы добра замерзнуць: цяпер яшчэ лёд вельмі тонкі, утопішся.

Не паслухаўся пеўнік сястры, пакаціўся па лёдзе. Лёд праламаўся, і пеўнік — боўць у ваду! Толькі пеўніка і бачылі.

### ЗАЯЦ І ВОЖЫК

Беленькі гладзенькі зайчык сказаў вожыку:

— Якое ў цябе, братка, непрыгожае адзенне!

— Праўда, — адказаў вожык, — але мае калючкі ратуюць мяне ад зубоў сабакі і ваўка. Ці так табе служыць твая прыгожанькая шкурка?

Зайчык замест адказу толькі ўздыхнуў.

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**

**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ

Толькі сонца кіне
Першы свой прамень,
Устаеш ты з ложка:
— Мама, добры дзень!

На тваёй галоўцы
Цёплая рука...
Па дарозе ў школу
Стрэў ты дружбака

І яму гаворыш
З ласкай: „Добры дзень".
Ён табе ўсміхнуўся
І з табой ідзе.

Ён твайму вітанню
І сустрэчы рад.
Хмарна, а святлеюць
Неба, кветкі, сад.

**Паўлюк Прануза**

*1. Скажыце, калі бывае так, як піша паэт:*

Хмарна, а святлеюць
Неба, кветкі, сад.

*2. Прачытайце сказы са словамі ветлівасці.*

1. Добры дзень, цёця Надзя! 2. Да пабачэння, Віця! 3. Добры вечар, дзедка! 4. Дабранач вам! 5. Дайце мне, калі ласка, кніжку „Аб чым шуміць Белавежская пушча". 6. Усяго найлепшага табе ў дарозе! 7. Выбачай, я незнарок наступіў табе на нагу. 8. Будзьце ласкавы, адчыніце мне дзверы.

*3. Дапоўніце размову.*

— Добры дзень, ...
— Вітаю цябе, ...
— Скажы мне, калі ласка, што...
— Выбачай, але...
— Тады, будзь добры, пазыч...
— З вялікай прыемнасцю пазычу табе...
— Сардэчнае дзякуй...
— Няма за што...
— Да пабачэння, ...
— Бывай здароў, ...

*Складзіце падобныя размовы паміж сынам і бацькам, дзяўчынкай і незнаёмай жанчынай.*

*4. Напішыце ў алфавітным парадку па чатыры назвы дрэў, жывёл, збожжавых раслін. Узор: Дрэвы: асіна, бяроза...*

*5. Прачытайце. Запішыце словы ў алфавітным парадку:*

Ясень. Боты. Сшытак. Шафа. Дом. Сястра. Талерка. Нажніцы. Вуліца. Морква. Іголка. Аўторак. Горад. Поўдзень. Вёска.

*6. Прачытайце імёны. Выпішыце ў алфавітным парадку спачатку імёны дзяўчынак, затым імёны хлопчыкаў.*

Рая, Лёня, Таня, Алеся, Вася, Уля, Чэся, Ігар, Міша, Коля, Ніна, Оля, Юля, Пеця, Славік, Саша, Юрка, Даніла, Змітрок, Стася, Ёля.

### ДОБРАЕ СЛОВА

У трамвай праз пярэднія дзверы ўваходзіў старэнькі дзядок. Хлопчык сядзеў на пярэдняй лаўцы і заўважыў, як цяжка падымацца старому з нізкай прыступкі. Ён усхапіўся і падаў руку.

Дзядуля падзякаваў.

— Сядайце, калі ласка, на маё месца, — паказаў хлопчык на лаўку.

— Сядзі, мне недалёка ехаць, пастаю.

Хлопчык быў настойлівы і не адставаў:

— Ну, я вас прашу, сядайце.

Прыйшлося паслухацца. Дзядуля сеў, паставіў хлопчыка побач і спытаў:

— Як цябе зваць?

— Юра.

— Харошае імя. У якім класе вучышся? — зірнуў дзядуля на Юраў партфель.

— У трэцім.

— Зух! Старайся, старайся. Усё гэта спатрэбіцца. Я ў твае гады і аднаго класа не скончыў. Толькі і ўмею распісацца. І то навучыўся, калі мне было дваццаць гадоў.

— То вы і казак гэтых не чыталі? — Юра дастаў кніжку з партфеля.

— Не. Казкі расказвала мне маці.

— Ой, столькі цікавага вы не ведаеце! — пашкадаваў хлопчык. — Калі б вы былі блізка, я чытаў бы вам...

Дзядуля цяжка ўздыхнуў: у яго свае гэткія ўнукі ёсць, маглі б пачытаць, але не вельмі дружаць яны з кнігай. Ён паглядзеў у акно і сказаў:

— Ну, мне зараз выходзіць. Ты куды — у школу ці са школы едзеш?

— У школу, на другую змену. Мы пераехалі на новую кватэру ў новы раён горада, а трэці клас я буду канчаць там, дзе жылі раней.

— Хто цябе вучыць?

— Настаўніца.

— Сядай на маё месца, — устаў дзядуля, — і перадай настаўніцы і бацькам дзякуй.

„А за што перадаваць дзякуй настаўніцы і бацькам? — паціснуў плячыма Юра. — Прывітанне і тое знаёмым толькі перадаюць, а тут — дзякуй..."

*Алесь Пальчэўскі*

*1. Як вы думаеце, за што падзякаваў дзядуля настаўніцы і бацькам Юры?*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 6, кв. 45. Марына Самусенка, 3 клас.

* * *

БССР, 220089, г. Мінск-89, вул. Жалезнадарожная, 126-Б, кв. 35. Лена Дзянісік, 7 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 116, кв. 139. Наташа Шпак, 5 клас.

* * *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, п/о Рылёво, Потаповой Лене. 5 клас.

## РОБІМ САМІ ЦАЦКІ




### ГАРМОНІК

На гэты раз будзем рабіць з паперы гармонік.

Бярэм прамавугольны лісток моцнай, гладкай паперы. Складваем яго напалавіну ўздоўж (мал. 1). На складзеным беразе абедзвюх палавін закладваем палоску шырынёй 1 см два разы да сярэдзіны (мал. 2). Зноў складваем уздоўж напалавіну, каб закладзеная палоска была ўнутры (мал. 3). Так складзены лісток заламваем у гармонік праз кожныя 2 см. Канцы пакідаем даўжэйшымі (мал. 4). Складзены гармонік трэба моцна сціснуць (найлепш падкласці пад нагу стала). Пасля гэтага так яго расцягваем, каб атрымаць аб'ёмістую форму прызмы (мал. 5). На ўсіх сценках прызмы паводле заламаных ліній пальцамі трэба ўфармаваць рабрыны гармоніка, каб яны мелі вострыя грані, выпуклыя і ўвогнутыя напярэмен на суседніх сценках (мал. 6). Найлепш гэта рабіць пальцамі абедзвюх рук, а пальцы крыху звільготніць. Карпатлівы і павольны гэта занятак, патрабуе ўмеласці і цярплівасці, аднак з часам налаўчыцеся гэта рабіць так, што перастане яно быць цяжкім. Пасля ўфармавання рабрын адрэзваем 2-3 дзіркі на канцах рабрын, а канцы складваем да сярэдзіны (мал. 6-7). Тады бярэм пальцамі абедзвюх рук з абодвух канцоў гармоніка і памаленьку сціскаем гармонік. Трэба пры гэтым сачыць і папраўляць, каб як найлепш улажыліся рабрыны. Сціснуўшы ўвесь (мал. 8), маем гатовы гармонік з мехам, на якім можна граць, расцягваючы і сціскаючы мех. Праўда, наш гармонік „ціхі", але граючы на ім можна падспеўваць, а гульня сама па сабе цікавая.

**Ваня Майстар**

## ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Мы, вучні пачатковай школы ў Плёсках, надумалі напісаць да Цябе.*

*У нашай школе толькі тры класы: першы, другі і трэці. У другім і трэцім класе мы вывучаем беларускую мову. Ходзяць на ўрокі беларускай мовы ўсе, а ёсць нас 6 вучняў — двое ў трэцім і чацвёра ў другім. Настаўніцай беларускай мовы з'яўляецца у нас Ніна Пацэвіч, мы яе вельмі любім. Беларуская мова для нас вельмі лёгкая, мы ўсе маем па ёй пяцёркі і чацвёркі. Усе атрымліваем „Ніву", вельмі любім чытаць „Зорку". З ахвотай спяваем беларускія песні, а больш за ўсё любім слухаць, калі наша настаўніца чытае нам беларускія казкі.*

*Да пабачэння, „Зорка".*

*Надрукуй наша пісьмо.*

**Вучні II і III класаў, Плёскі**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

— Мама, сёння я толькі адзін адказаў на пытанне настаўніцы, — пахваліўся Міколка.

— А што гэта было за пытанне?

— Настаўніца запытала: хто не выканаў дамашняга задання?

* * *

Славік пытаецца ў мамы, кім быць, калі вырасце.

— Шмат ёсць цікавых прафесій, — адказвае мама, — ты можаш стаць інжынерам, фатографам, архітэктарам.

— А што трэба, каб стаць архітэктарам?

— Трэба ўмець добра маляваць, лічыць і мець добры смак.

Славік адказвае:

— Значыць, я буду архітэктарам. Маляваць я ўжо ўмею, лічыць таксама. А што смачнае, я даўно ўжо ведаю.

## АДГАДАНКА



**Вазьмі каляровыя алоўкі і размалюй палі, азначаныя 1 — на жоўты колер, 2 — аранжавы, 3 — чырвоны, 4 — фіялетавы, 5 — блакітны, 6 — зялёны, 7 — карычневы, 8 — чорны. Што выйшла?**



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

### ХІМІК... БЕЗ ДЫПЛОМА

Як толькі горад засынае,
Я пачынаю „чараваць“.
Дыплома хіміка не маю.
Нашто ён мне?..
Абы хаваць?..
Ды маю я апаратуру,
„Лабараторыю“ сваю:
Па дзесяць пляшак „дзінатуры“
За ноч, бывала, выдаю.
Прадукт смярдзючы і пякучы —
Мазгам аж цесна ў галаве!
Ды хто ўсё ў хіміі пахучым,
Прыемным дужа назаве?
Вучоным, праўда, лепей крышку
Жывуць, бы ў Бога за спіной:
Адкрыцці робяць, пішуць кніжкі,
Не ходзяць ранкам да піўной.
Ім слава, прэміі, вядомасць,
Мяне ж грызе штодня сям'я.
Няхай я хімік без дыплома,
Ды ўсё ж у сэрцы — хімік я!
Я свой разгон, абсяг свой знаю,
Сваіх сяброў, сваіх гасцей:
І я „дзень хіміка“ спраўляю,
На кожным тыдні, і часцей.

**Мікола Чарняўскі**




— Выключце магнітафон! Немагчыма працаваць.






Без слоў.

### СПОСАБ

Гутараць дзве маладыя задрыпанкі.

— Я знайшла спосаб абіраць цыбулю і не плакаць, — гаворыць адна.

— Няўжо?! Што ж гэта за спосаб?

— Даручаю абіраць цыбулю мужу.

### ДОБРАЯ ПАМЯЦЬ

Пасля наведання вагона-рэстарана пасажыр ніяк не мог адшукаць сваё купэ.

— Няўжо вы не запамяталі яго нумар? — пытае кандуктар.

— Не, але я цвёрда памятаю, што за акном быў бярозавы гай...

### ГЛУПСТВА

— Дык вы адукаваны чалавек, студэнт, як жа вы маглі пайсці да знахаркі? — злуе лекар.

— Уяўляю, якое глупства яна вам нараіла!

— Каб я звярнуўся да вас, доктар...

### ПАТРАБУЕЦЦА ПАРАДА

Правінілася пяцігадовая дзяўчынка, маці яе давай ушчуваць:

— Зарубі сабе на носе, калі гэткае яшчэ раз паўторыцца...

Дзяўчынка спахмурнела, а потым сказала:

— Добра, мамачка, зарублю, але я не ведаю, як гэта зрабіць.

Зайшла ў кабінет загадчыка магазіна на два словы і выйшла з двума пакункамі.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Скажыце, які сакрэт вашага даўгалецця? — пытаецца рэпарцёр у старога шатландца.

— Вы не можаце сабе ўявіць, якое ў нас дарагое пахаванне... — адказвае шатландзец.

*

— Учора на мяне напаў бандыт, але я нават не заявіў у паліцыю.

— Чаму?

— Ён абшукаў усе мае кішэні, уздыхнуў і даў мне долар.

*

Жонка: — Учора ў Андэрсанаў былі госці, а сёння ў Юнсонаў. Але нас не запрасілі!

Муж: — **Не хвалюйся! Мы хутка таксама наладзім вялікі прыём і ніводнага чалавека на яго не запросім!**

**Байкі ў прозе**

### ПАЗАЙЗДРОСЦІЎ

— У каго выдатнае жыццё, дык гэта ў вераб'ёў, — пацягнуўшыся на цёплай ляжанцы, пазайздросціў кот Васька. — Ім мышэй лавіць не трэба.

### МУРАВЕЙ

— І чаму толькі ваўка драпежнікам завуць? — здзіўляўся муравей. — Я такі малы і то мяне ні разу не чапае.

**Рыгор Галкоўскі**

**З „Весніка Задрыпоніі“**

### НОВЫЯ АБРАДЫ

Здзіўленню А. Кораня не было канца, калі яго ўпершыню на новай працы сустрэлі кветкамі і музыкай. Выявілася, што гэта яго сотае, юбілейнае прадпрыемства, якое ён змяніў у гэтым годзе.

### БАНТОН

Вам пазванілі ў дзве гадзіны ночы, і незнаёмы голас назваў вас дурнем. Так рабіць непрыгожа. Неадкладна дайце адбой, набярыце першы трапіўшыся нумар і калі пачуеце ў трубцы голас, пажадайце яму „спакойнай ночы“.




Без слоў.



Нічыя.



— Скажы яму ўрэшце, што ты гэту качку ў вочы не бачыў...

### ГЕНІЯЛЬНЫ ВЫХАД

Як паведамлялася ў заходнегерманскай газеце „Зюддойчэ цайтунг“, адзін амерыканец па прозвішчы Кен Макевой ухітрыўся зрабіць бізнес нават на сваёй будучай смерці. У яго невылечная хвароба мозга, і ўсе дактары ў адно слова гавораць: Кен — чалавек скончаны, яго дні злічаны. Але пакуль не памёр, жыць жа за нешта трэба. І хворы мозг Кена вынайшаў геніяльны выхад са становішча. Усім, хто заплаціць яму 20 долараў, ён прапануе перадаць... на тым свеце паклон любому нябожчыку: сябру ці родзічу, ці проста знаёмаму, паколькі сам Кен рыхтуецца хутка перасяліцца туды.

### ПРЫХІЛЬНІКІ МОДЫ

Па сведчанню той жа „Зюддойчэ цайтунг“, работа вартавых грамадскага парадку лічыцца тут амаль гераічнай. Паліцыя арыштавала за пэўны час 227 бандытаў, на чыім рахунку больш чым 2 тысячы розных злачынстваў і матэрыяльных шкод агульным памерам у 100 мільёнаў марак. Рабаўнікі не займаліся нейкай там дробяззю. Улічваючы моду на „рэтра“, яны пераважна цікавіліся антыкварнымі рэчамі, якія потым перапрадаваліся... мільянерам з Нідэрландаў і Аўстрыі.



**Можна знайсці жанчын, якія ніколі не здраджвалі сваім мужам, але цяжка знайсці такую, што здраджвала б усяго адзін раз.**